**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 34 (802) 20 жніўня 2015 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае




Свята ў Квачах!
*Фота Зм. Лупача.*
Працяг тэмы на стар.5























Падача абвестак па тэлефоне № 166





ISSN 2077-8023


Рэклама ў газеце «ВГ», тэл.: 8(029) 813-99-99

Полацкі раён

# Якая вытворчасць – такія і заробкі

■ Кастусь Александровіч

**І за некалькі месяцаў да прэзідэнцкіх выбараў па розных прычынах фінансавае становішча многіх айчынных вытворцаў застаецца вельмі няпростым.**

У ліку іншых рэгіёнаў Прыдзвіння, дзе найбольш дапусцілі ў жніўні фактаў з затрымкамі зарплаты, зноў апынуўся буйны прамысловы Полацкі раён. Нават у адным з самых багатых гарадоў краіны Навапалацку рэальныя заробкі гараджан зменшыліся на 6 %. Даўно тут такога не было, як адзначалася на пасяджэнні гарвыканкама, каб 8 мясцовых прадпрыемстваў і арганізацый, сярод якіх завод "Вымяральнік", трамвайны парк, аўтапрадпрыемства № 6, ААТ "Белэлектрамантаж" і іншыя, сталі стратнымі. Увогуле ў нафтаградзе цяпер ужо 46 суб'ектаў гаспадарання маюць сур'ёзныя фінансавыя праблемы, якіх не пазбеглі мясцовы Дом гандлю і прыватны гандлёвы Дом "Стралец", гандлёвае прадпрыемства "Базіс" і нават лепшая ў вобласці служба быту. У сярэдзіне лета ў цэлым па раёне 15 калектываў мелі запазычанасці па зарплаце, найбольш у сельскай гаспадарцы. Рэальныя праблемы на вытворчасці, работа на склад у выніку прывялі да таго, што ў цэлым па Віцебскай вобласці колькасць зарэгістраваных беспрацоўных вырасла з пачатку года ў 2 разы. Па фактах, выяўленых выпадкаў парушэнняў працоўнага заканадаўства, толькі пракурорскія работнікі вынеслі 201 прадстаўленне і прадпісанне, 39 афіцыйных пратэстаў і папярэджанняў, прыцягнулі да дысцыплінарнай і адміністрацыйнай адказнасці 284 службовых асоб, каб меней было даўжнікоў.

Докшыцкі раён

# Зноў на вышыні

■ Чэслаў Якубовіч.

**У наш час у любой сферы дзейнасці поспеху могуць дабівацца толькі сапраўдныя прафесіяналы.**

З гэтай мэтай ва ўсіх падраздзяленнях Міністэрства лясной гаспадаркі Беларусі штогод праводзяцца спаборніцтвы сярод вальшчыкаў лесу, да якіх апошнім часам далучыліся спецыялісты, якія працуюць на сучаснай тэхніцы для нарыхтовак драўніны – на харвестарах і фарвардарах. Напярэдадні прайшоўшай у Глыбокім пашыранай галіновай калегіі міністэрства на базе Багушэўскага лягасу адбыўся чарговы абласны чэмпіянат"Лесаруб-2015".Ва ўмовах высокай канкурэнцыі перамогу ў ім атрымала ў напружанай барацьбе дружная каманда вальшчыкаў лесу з Бягомльскага лягасу, што ў Докшыцкім раёне, якая набрала 4467 ачкоў у агульнакамандным заліку. Калектыў мясцовага лягасу на п'едэстале гонару абышоў стаўшых другімі калег-глыбачан і каманду з Пастаў, якая фінішавала трэцяй. Поспех бягомльцам прынесла роўнае выступленне ўсіх членаў каманды і таксама тое, што два іх прадстаўнікі, вальшчыкі лесу Аляксандр Юковіч стаў лепшым лесарубам вобласці сярод дарослых у індывідуальным заліку, а Арцём Харкоў перамог сярод юніёраў па суме пяці вызначаных намінацый. Прычым Аляксандру не было роўных у двух асноўных выпрабаваннях, а іншыя члены каманды, вальшчыкі лесу Аляксандр Бобрык і Сяргей Радзюк атрымалі ўзнагароды за майстэрства ў намінацыях абрэзкі сукоў, мантажу ланцуга пілы і распілоўцы дрэў камбінаваным рэзам. Яшчэ трое работнікаў мясцовага лягасу былі ў ліку лепшых і сярод машыністаў сучасных тралёвачных лесанарыхтоўчых машын.

Пастасўкі раён

# Аб'ектаў кот наплакаў

■ Станіслаў Раманчук.

**Сярод іншых галін айчыннай эканомікі цяперашні крызіс моцна зачапіў і будаўнічую сферу, асабліва ў малых гарадах з глыбінкі.**

Калі яшчэ нядаўна там актыўна вяліся работы па будаўніцтве прамысловых і сацыяльных аб'ектаў, шмат узводзілася жылля, то зараз усё змянілася ў горшы бок. Вось і ў адным з лепшых у трэсце "Полацксельбуд" філіяле аграбудпрадпрыемстве "Рассвет Пастаўскі" паўстала праблема, як наогул захаваць свой працоўны калектыў з трохсот чалавек. Для мясцовых будаўнікоў сёлета практычна не стала аб'ектаў па дзяржзаказе, неабходных аб'ёмаў работ мізер, а шэраг з іх проста выпаў з-за адсутнасці фінансаў. Асабліва адчувальнай для будаўнікоў стала выключэнне са спісу ўзводзімых аб'ектаў другой чаргі сучаснай рабатызаванай фермы для ААТ "Навасёлкі-Лучай", якая мела высокую ступень гатоўнасці. Такім чынам спынілася і намечанае будаўніцтва сфінафермы-рэпрадуктара ў Камаях. З узвядзеннем новай гарадской лазні ўзнік поўны канфуз, бо яе абяцалі здаць у эксплуатацыю яшчэ 3 гады назад. Пакуль пастаўчан выручала, што ў маі адкрылі фінансаванне па дзяржзаказе ўзвядзенне шматкватэрнага дома на 60 кватэр у райцэнтры, куды падвядуць новыя цепласеткі з каналізацыяй. Да канца года будуць здадзены яшчэ два 4-кватэрныя дамы ў Коўзанах і тры катэджы ў Дунілавічах. Мясцовых будаўнікоў выручае, што для іх з'явілася праца на аб'ектах Беларускай АЭС у Астраўцы, Нарачанскай курортнай зоны і ў трох суседніх раёнах, куды іх таксама запрасілі дапамагчы.

# Аб самым надзённым

## ПАПУЛІСЦКІЯ РАШЭННІ ПЕРАД ВЫБАРАМІ МОГУЦЬ ВЫКЛІКАЦЬ НЕЎЗАБАВЕ НОВЫ РОСТ ЦЭН



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Ад дадатковых грошай у кашальку, зразумела, ніхто не адмовіцца, але асабліва радавацца гэтаму не выпадае. З пачатку года ВУП краіны зменшыўся на 3,3 % за першых шэсць месяцаў працы народнагаспадарчага комплексу. Зразумела, што калі грашовая маса расце на фоне спаду вытворчасці, то ўслед за гэтым ужо пасля выбараў можна чакаць новага росту цэн і абясцэньвання нацвалюты.**

Чарговая прэзідэнцкая кампанія ў Беларусі сёлета праходзіць, як і чакалася, традыцыйна ціха і спакойна, хоць і мае некалькі новых сваіх асаблівасцей. Паколькі наша краіна перажывае даволі няпростыя эканамічныя праблемы, то не дзіўна, што змяніўся парадак фінансавання расходаў на выбары патэнцыйных кандыдатаў на пасаду главы дзяржавы. Яны для гэтых мэт павінны траціць уласныя сродкі і фарміраваць асабістыя выбарчыя фонды. Неўзабаве ў кожнай паштовай скрыні выбаршчыкі атрымаюць лістоўкі за дзяржаўны кошт з максімальна поўнымі звесткамі і біяграфіямі пра тых, за каго прыйдзецца восенню галасаваць.

Праўда, заканадаўства цяпер будзе праследваць тых, хто публічна будзе агітаваць за байкот і тым самым імкнуцца сарваць выбары, на якія пойдуць значныя сродкі з дзяржбюджэту. У астатнім гэты палітычны працэс праходзіць па даўно адпрацаванай да дробязей схеме і з прадказальнымі вынікамі наконт таго, хто і надалей павядзе сінявокую рэспубліку ў новай пяцігодцы. Не прайшло і аднаго тыдня на этапе збору подпісаў, як нязменны глава Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына паведаміла, што ў падтрымку вылучэння на новы тэрмін кандыдатам у прэзідэнты А. Лукашэнкі былі здадзены ў тэрытарыяльныя выбарчыя камісіі ўжо больш 100 тысяч подпісаў. А потым іх колькасць павялічылася да паўмільёна, калі іншыя групы выйшлі толькі на 60 тысяч подпісаў.

І тут жа гэта яшчэ маладжавая жанчына, якой пашчасціла нядаўна злётаць у Вену (бо яна ў спісе неўязных у ЕС) для быццам параўнання дабавіла, што ў падтрымку былога памочніка главы дзяржавы, а цяпер апазіцыянера А. Лябедзькі здалі больш 500 подпісаў. Не хочацца далей нават каментаваць гэты факт, бо хто б у нас сумняваўся, што за кіраўніка краіны могуць сабраць не адну сотню тысяч такіх подпісаў. Між тым, не толькі спецыялісты, але і большасць насельніцтва ўжо адчуваюць, наколькі вялікі груз праблем навалійся цяпер на Беларусь.

Большасць амбіцыйных паказчыкаў прагноза сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны і ў цэлым гэтай пяцігодкі з трэскам праваленые, а айчынная эканоміка закрэдытавана і пераадолець існуючыя праблемы не можа. Перад папярэднімі выбарамі 5 гадоў назад ставілася задача павялічыць ВУП краіны за 2011-2015 гады на 62-68 %. На самой справе выйдзе толькі крыху больш 6 %, што азначае, што апошнім часам Беларусь фактычна тапталася на месцы. Патлумачаць людзям такія праблемы неспрыяльнымі знешнімі фактарамі і многія беларусы ў гэта паверацьі не будуць звязваць свае цяперашнія жыццёвыя цяжкасці з курсам Крамля "Крымнаш".

Суседняя Расія ўсё болей аказваецца ў міжнароднай ізаляцыі, бяднее на вачах там просты люд, а пуцінскую каманду, падобна на тое, не спыніць ніякая вялікая кроў і пагроза пажару сусветнай вайны. Тым часам пад антырасійскія амерыканскія санкцыі трапіў і наш буйны банк "БелВЕБ". Аднак нам бы са сваімі праблемамі рэцэсіі разабрацца, у якіх істотную ролю адыгрывае цяпер моцна "прасеўшы" расійскі рынак для беларускіх тавараў. Нягледзячы на існуючыя цяжкасці, у Беларусі са жніўня павысілі на 6,4 % бюджэт пражытачнага мінімуму. Такім чынам павялічацца сумы адпаведных сацыяльных выплат. З наступнага месяца, як вядома, крыху павысяцца памеры працоўных пенсій, хоць яны не могуць зраўняцца з бягучай інфляцыяй.

Ад дадатковых грошай у кашальку, зразумела, ніхто не адмовіцца, але асабліва радавацца гэтаму не выпадае. З пачатку года ВУП краіны зменшыўся на 3,3 % за першых шэсць месяцаў працы народнагаспадарчага комплексу. Таксама за паўгода беларускі экспарт зменшыўся амаль на 5 млрд. долараў. Зразумела, што калі грашовая маса расце на фоне спаду вытворчасці, то ўслед за гэтым ужо пасля выбараў можна чакаць новага росту цэн і абясцэньвання нацвалюты, што мы ўжо праходзілі ў вельмі цяжкім для эканомікі крызісным 2011 годзе. Праўда, зараз такія працэсы, магчыма, не выклічаць падобнай ранейшай проста шалёнай інфляцыі.

Па выніках 2015 года рост цэн можа скласці па аптымістычным сцэнарыі, як і планавалася, 16 %. Нават дзеючы кіраўнік дзяржавы прызнае, што краіна не мае магчымасці павысіць заробкі беларусам, бо "нет производства, реализации или есть в малых объемах – такая и зарплата. Деньги печатать мы не будем…" На шчасце, нашай краіне ў ліпені ўдалося справіцца з буйнымі выплатамі па ранейшых крэдытах у памеры 1,3 млрд. долараў. Аднак айчынная банкаўская сістэма панесла адчувальныя страты: тры банкі пазбавіліся ліцэнзій, а два з іх будуць ліквідаваны.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 20.08.15 | | | | Пятніца 21.08.15 | | | | Субота 22.08.15 | | | | Нядзеля 23.08.15 | | | | Пан. 24.08. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +9 | +12 | +21 | +16 | +10 | +14 | +23 | +17 | +13 | +15 | +24 | +18 | +12 | +15 | +22 | +16 | +14 | +16 | +22 |
| Ціск | 756 | 758 | 757 | 756 | 756 | 758 | 758 | 756 | 756 | 757 | 756 | 754 | 754 | 755 | 755 | 753 | 753 | 754 | 754 |
| Вецер м/сек | 2 | 2 | 4 | 2 | 1 | 1 | 3 | 1 | 1 | 1 | 3 | 2 | 2 | 1 | 4 | 1 | 2 | 1 | 4 |
| | С-З | С-В | С-В | С-В | С | С | В | В | В | В | С-В | С-В | С-В | В | В | С | В | Ю | Ю-В |
| Вільготнасць | 69 | 74 | 35 | 57 | 86 | 80 | 34 | 62 | 80 | 80 | 36 | 53 | 77 | 83 | 42 | 74 | 78 | 74 | 40 |

## Дзень за днём

**У першым паўгоддзі золатавалютныя рэзервы краіны знізіліся яшчэ на амаль 10 %, на 440 млн. USD. З-за засухі Беларусь недабярэ 300-400 тысяч тон зерневых, але цэны на хлеб не павялічацца. Першы этап будаўніцтва МКАД-2 вакол Мінска завершаць да канца года. З-за крытыкі бізнэса і сусветных структур урад Беларусі адклікаў з парламента законапраект аб прыватызацыі. Пастаўкі расійскай нафты ў наступным годзе павялічацца на 1 млн. тон. Айчынныя тэлеканалы неўзабаве пачнуць вяшчанне ў сучасным шырокафарматным фармаце 16:9. Па выніках уступнай кампаніі 11 ВНУ Беларусі недабралі звыш 350 студэнтаў-першакурснікаў на бюджэт.**

# Важнейшыя навіны свету

**Англія.** Прэм'ер-міністр Д. Кемеран заклікаў свет знайсці спосаб пакараць вінаватых у гібелі авіярэйса МН17 пасля заблакавання РФ у ААН стварэння міжнароднага трыбунала.

**Іран.** Падчас міжнародных праверак ядзерных аб'ектаў краіны, як заявіла МЗС краіны, туды не дапусцяць інспектараў з ЗША і Канады быццам з-за адсутнасці дыпадносін.

**ЗША.** З-за анексіі Крыма і працяглай агрэсіі на Данбасе краіна ўвяла новыя санкцыі супраць яшчэ 12 прыбліжаных Пуціна і 18 расійскіх кампаній і вядучых банкаў.

**Гвінея.** Клінічныя выпрабаванні новай эксперыментальнай вакцыны супраць віруса Эболы паказалі найвышэйшую эфектыўнасць лячэння 100 % захварэўшых людзей.

**Расія.** З-за пагаршэння ўмоў дзейнасці, як паведаміла газета "Ведомости", "Газпрам" вымушаны пайсці на распродаж сваіх актываў у Прыбалтыцы і нават у Германіі.

**Украіна.** Глава МЗС П. Клімкін паведаміў, што праз два месяцы 5 краін свету паўторна ўздымуць у ААН пытанне стварэння трыбунала па збітаму над Данецкам "Боінгу".

**Германія.** Часопіс "Spiegel" паведаміў аб намерах канцлера Ангелы Меркель балатавацца ў 2017 годзе на пасаду главы нямецкага ўраду ў чацвёрты раз.

**Расія.** Вядомы журналіст В. Портнікаў заявіў, што РФ стане неўзабаве сусветным ізгоем, калі завершыцца следства па факце збіцця рускай ракетай малайзійскага самалёта.

**Літва.** Прэзідэнт Даля Грыбаўскайце назвала абсурдным рашэнне Пуціна знішчаць бульдозерамі заходнія прадукты, такое эмбарга прынесла многім рускім толькі шкоду.

**Англія.** У Крамлі нервова адрэагавалі, калі на слуханнях у Высокім судзе Лондана сталі сцвярджаць, што Пуцін даў загад забіць збеглага на Захад афіцэра ФСБ А. Літвіненку.

**Фінляндыя.** Міністр абароны Юсі Нііністе паабяцаў абараніць Аландскія астравы, некалі захопленыя Расіяй, ад магчымага ўварвання "зялёных чалавечкаў", як было ў Крыме.

**Польшча.** На працягу тыдня авіяцыя НАТО з авіябаз краіны і Прыбалтыкі перахапіла 22 рускія ваенныя самалёты, з пачатку года колькасць такіх перахопаў склала 250 выпадкаў.

**Расія.** Ваенныя РФ паведамілі пра планы аднавіць выпуск хуткасных часоў СССР водных экранапланаў "Лунь" з крылатымі ракетамі, хоць яны маюць нізкую манеўранасць.

**Бельгія.** З-за працяглай анамальнай гарачыні ў краіне памерлі 210 мужчын і 200 жанчын пераважна пажылога ўзросту, падобныя працэсы фіксуюцца і ў Францыі, Галандыі.

**Кітай.** Міжнародны алімпійскі камітэт абраў сталіцу Пекін месцам правядзення зімовай Алімпіяды 2022 года, заяўка кітайцаў прадугледжвала штучны снег для атлетаў.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Салігорск.** ААТ "Беларуськалій" змог прыцягнуць яшчэ адзін буйны крэдыт расійскага "Сбербанка" на 550 мільёнаў еўра з тэрмінам пагашэння 5 гадоў, валюта патрэбна краіне.

**Астравец.** Здадатковымі цяжкасцямі сутыкнулася новабудоўля мясцовай АЭС пасля ўвядзення санкцый ЗША і для банка "БелВЭБ", праз які вяліся доларавыя разлікі.

*Мінск.* Самых разумных 2023 студэнтаў-першакурснікаў на бюджэт зноў набраў БДУ, з іх 57 % скончылі ліцэі і гімназіі, а чвэрць залічаных былі медалісты, пераможцы алімпіяд.

**Калядзічы.** Беларуская чыгунка завяршыла мадэрнізацыю мясцовай таварнай станцыі, яна стала сучасным транспартна-лагістычным цэнтрам па апрацоўцы да 1 млн. тон грузаў.

**Барысаў.** З-за скарачэння продажу аўто ў РФ і Казахстане на аўтазавод "Белджы" штомесяц стала паступаць з Кітая да 50 кантэйнераў, а летась было па 150-300 з камплектуючымі.

**Магілёў.** Гарадскія ўлады зноў засмуцілі прарасійскіх дзеячаў, бо пліта з шавіністычным вершам "Клеветникам России" не будзе вернута на ўстаноўлены тут бюст Пушкіна.

**Мінск.** Міністр культуры Беларусі Б. Святлоў зноў заблакіраваў установу ў сталіцы памятнага мемарыяльнага знака ахвярам масавых сталінскіх рэпрэсій.

**Буда-Кашалёва.** Канфлікт навучэнцаў аграрнага каледжа з дырэктарам і ягонай жонкай-выкладчыцай завяршыўся адлічэннем паловы групы будучых энергатэхнікаў.

**Асіповічы.** З-за пажару на тарфяніках прыйшлося перакрыць рух на ўчастку трасы М5 Мінск-Гомель, дзе сутыкнуліся з-за дрэннай бачнасці каля 30 аўтамабіляў.

**Бабруйск.** Фабрыка "Красный пищевик" пачала выпуск новай лінейкі зефіру ў каробках з выявамі ўзораў нацыянальнай беларускай сімволікі і тлумачэннямі іх значэнняў.

**Маладзечна.** Шляхам падману і злоўжывання даверам 44-гадовая махлярка ашукала 15 сваіх знаёмых і змагла "зарабіць" паўмільярда рублёў, распачата крымінальная справа.

**Мазыр.** Пад вечар на рацэ Прыпяць у рысе горада сеў на мель прагулачны цеплаход "Смелы", ніхто з пасажыраў і членаў каманды судна не пацярпеў, іх эвакуіравалі.

**Жабінка.** У парку пасёлка Ленінскі пад напорам моцнага ветру ўпаў і загінуў найстарэйшы ў Беларусі дуб-велікан вышынёй 33 метры ва ўзросце пад 500 гадоў.

**Ганцавічы.** Былы начальнік Акадэміі МУС Беларусі на паляванні на тэрыторыі раёна выпадкова застрэліў свайго сябра, калі той пакінуў адведзенае егерам месца.

**Мазыр.** У доме аднаго з гараджан падатковая інспекцыя з міліцыяй выявілі і канфіскавалі амаль 2 тысячы літраў рускай гарэлкі і замежнага алкаголю без акцызных марак РБ.

## Мінімальны заробак за ліпень індэксуецца на 5,1%



■ БЕЛТА

**У Беларусі месячная мінімальная заработная плата (МЗП) за ліпень гэтага года індэксуецца на 5,1% і складае Br2 млн 180 тыс. 126, паведамілі ў Міністэрстве працы і сацыяльнай абароны.**

Устаноўлены пастановай Савета Міністраў ад 9 снежня 2014 года нумар 1151 памер месячнай мінімальнай заработнай платы (з 1 студзеня - Br2 млн 100 тыс. 100) за ліпень індэксуецца на 5,1%, паколькі індэкс спажывецкіх цэн за ліпень перасягнуў пяціпрацэнтны парог да месяца яе ўстанаўлення (студзень 2015 года). МЗП - дзяржаўны мінімальны сацыяльны стандарт у галіне аплаты працы, які наймальнік абавязаны прымяняць у якасці ніжэйшай мяжы аплаты працы работнікаў за работу ў нармальных умовах на працягу нармальнай працягласці рабочага часу пры выкананні абавязкаў работніка, лакальных нарматыўных прававых актаў і працоўнага дагавора.

Грашовыя даходы (заработная плата, дзяржаўныя стыпендыі навучэнцам, стыпендыі клінічным ардынатарам, стыпендыі работнікам, накіраваным на павышэнне кваліфікацыі, перападрыхтоўку, стажыроўку на вочнай (дзённай) форме навучання ў іншы населены пункт), што атрымліваюцца з бюджэтных крыніц, за ліпень бягучага года не індэксуюцца, бо індэкс спажывецкіх цэн за ліпень не перасягнуў пяціпрацэнтны парог да месяца іх аднаразовага перагляду (сакавік 2015 года).

Заработная плата дзяржаўных служачых і прыраўнаваных да іх асоб, грашовае забеспячэнне ваеннаслужачых, асоб радавога і начальніцкага складу, грашовае забеспячэнне ваеннаслужачых тэрміновай ваеннай службы, суворацаў, выхаванцаў воінскіх часцей, курсантаў ваенных навучальных устаноў індэксуюцца, як і ў папярэднім месяцы, на 6,6 працэнта, паколькі індэкс спажывецкіх цэн за ліпень не перасягнуў пяціпрацэнтны парог да месяца іх папярэдняй індэксацыі (люты 2015 года).

Устаноўленыя ад базавай велічыні дапамогі па беспрацоўі і стыпендыі грамадзянам у перыяд прафесійнай падрыхтоўкі, перападрыхтоўкі і павышэння кваліфікацыі па накіраванні органа па працы, занятасці і сацыяльнай абароне гарадскога, раённага выканаўчага камітэта не індэксуюцца, паколькі індэкс спажывецкіх цэн за ліпень не перасягнуў пяціпрацэнтны парог да месяца іх аднаразовага перагляду (студзень 2015 года).

Насельніцтву, якое атрымлівае даходы на тэрыторыі рэспублікі з іншых крыніц, кампенсацыя страт ад інфляцыі ажыццяўляецца па падставах, прадугледжаных калектыўнымі дагаворамі (пагадненнямі).

Грашовыя даходы насельніцтва за ліпень, што падлягаюць індэксацыі ў парадку, устаноўленым заканадаўствам, індэксуюцца ў межах Br1 млн 569 тыс. 130 - 100 працэнтаў бюджэту пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва, дзеючага на момант індэксацыі.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Старшыня Камітэта дзяржкантролю Беларусі Л. Анфімаў прапанаваў вобласці перабудаваць структуру сваёй эканомікі, вытворцы цяпер загружаны толькі напалову.

**Наваполацк.** Віцэ-прэм'ер урада Беларусі У. Сямашка пацвердзіў, што да канца 2016 года ААТ "Нафтан" завершыць сур'ёзную праграму мадэрнізацыі з ростам выпуску прадукцыі.

**Глыбокае.** Эканамічны суд вобласці прызнаў банкрутам кансервавы завод "Купцовъ", на ім засталося 56 чалавек, прадпрыемства ліквідуюць праз год, распрададуць усю маёмасць.

**Талачын.** Райцэнтр перайтварыўся ў суцэльную будаўнічую пляцоўку, работы ідуць у аўральным рэжыме, каб адрамантаваць 95 аб'ектаў да абласных "Дажынак" восенню.

**Полацк.** Па выніках маніторынгу за 2014 год раён стаў самым брудным у Беларусі з-за дзеючай нафтахіміі па выкідах у паветра 56,1 тысячы тон шкодных рэчываў.

**Верхнядзвінск.** На кантрольным пункце ў Себежскім раёне расійскія ветэрынары вярнулі назад у Беларусь 2 тоны свежых памідор, морквы і буракоў на продаж на Пскоўшчыне.

**Глыбокае.** У райцэнтры прайшло выязное пасяджэнне калегіі Міністэрства лясной гаспадаркі Беларусі, разглядаліся паказчыкі дзейнасці галіны і лясного фонду.

**Докшыцы.** На базе Бягомльскага лясгаса прайшоў рэспубліканскі семінар па павышэнні эфектыўнасці выкарыстання драўняных адыходаў і мясцовых відаў паліва.

**Гарадок.** На дарозе Р-115 на Віцебск ля вёскі Хайсы з'явіўся першы светадыёдны знак на пешаходным пераходзе, які працуе ад сонечнай батарэі, другі такі – на Аршаншчыне.

**Віцебск.** У мясцовым тэхналагічным універсітэце і пасля дадатковага набору ўтварыўся найбольшы ў краіне недабор 77 студэнтаў на бюджэтныя месцы навучання.

**Орша.** Суд пакараў 3 гадамі "хіміі" і 36 млн. рублёў штрафу 20-гадовага хлопца, які зноў сеў на падпітку за руль у той дзень, калі судом быў вынесены больш мяккі прыгавор.

**Лепель.** Прадстаўнікі 6 краін удзельнічалі ў міжнародным фестывалі міфалогіі "У госці да лепельскага Цмока", прыехалі кулінары знакамітай літоўскай ярмаркі "Казюкас".

**Полацк.** Да канца лета аўтаканцэрн Renault знізіў цэны на 8-20 % у мясцовым аўтасалоне і ў астатніх сямі па краіне на свае самыя папулярныя аўтамабілі.

**Браслаў.** У мясцовым касцёле-санктуарыі Маці Божай Валадаркі азёр прайшла X сустрэча каталіцкай моладзі з парафій Віцебскай епархіі і з іншых куткоў Беларусі.

**Віцебск.** У пакоі сваёй камунальнай кватэры знайшоў сваю пагібель 64-гадовы пенсіянер, якога падчас спрэчкі забіла малатком суседка і падпаліла потым памяшканне.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

■ Уладзімір Скрабатун

# У Лучаі паставяць помнік Агінскаму!

## Меркаванае адкрыццё якога адбудзецца 13 верасня 2015 года

**Па вялікім рахунку з кожнага больш-менш значнага беларускага мястэчка можна зрабіць турыстычную Меку. У гэтым аўтара пераканала паездка 2001-га года ў гарадок Глыбокае над Влтавай (Hluboká nad Vltavou), што ў Чэхіі. Ён мае пад 4,5 тысячаў насельніцтва, а ягоны статус – цэнтр воласці. Згадаем, што падобны статус маюць і нашыя: Пліса, Удзела, Карабы, Лужкі... і некалі Лучай.**

Паўмільёна турыстаў за год у чэшскім Глыбокім! (У асноўным за летні перыяд.) Так, у Глыбокім над Влтавай ёсць цікавы рамантычны замак і прыгожы старадаўні палац. Там праводзяцца міжнародныя фестывалі, напрыклад, Паляўнічы фестываль, на які з'язджаюцца паляўнічыя з Аўстрыі і Нямеччыны, натуральна, з Чэхіі. Ёсць аквапарк і лядовая арэна, сорак гатэляў і сорак рэстаранаў! Усё так! Але гэта, найперш, была заслуга тамтэйшага мэра Томаша Їрсы!

Гэта – там у Чэхіі, што зусім і не дзіўна!... Аднак, хто б мог, яшчэ гадоў 15 таму, уявіць што недалёкі ад Глыбокага Лучай стане сёння такім прыцягальным не толькі для пастаўчанаў і глыбачанаў, але ўжо і для ўсёй Беларусі. Натуральна, Лучаю пашанцавала, бо ў ім жыве такі ксёндз як Мікалай Ліпскі, мясцовы ўраджэнец (з Шаркоўшчынскага раёна). Ён паступова, пакрысе, пераўтварае тэрыторыю вакол касцёла, а разам з ёй і Лучай, у такі брэнд як "Паланез над блакітнымі азёрамі"!

Вось тут мы і падышлі да сакраментальнага пытання: як сумяшчающца Лучай, неўміручы паланез і яго аўтар Міхал Клеафас Агінскі. (Дарэчы, спадарства, ці памятаеце, была ж адна з прапановаў у сярэдзіне 1990-х-пач.2000-х зрабіць паланез Агінскага нават гімнам Рэспублікі Беларусь!) Ці наведваў знакаміты кампазітар Лучай? Гіпатэтычна, так!

Лучай з 1731 года належаў роду Агінскіх. Касцёл св. Тадэвуша, змураваны ў 1766-1777 гг. па фундацыі Тадэвуша Агінскага і яго жонкі Эльжбеты (з Пузынаў), асвячоны ў 1777 г. віленскім біскупам Феліксам Тавяньскім. Міхал Клеафас Агінскі нарадзіўся 7 кастрычніка 1765 года ў Гузаве Мазавецкага ваяводства. Жыў і працаваў на Смаргоншчыне ў маёнтку Залессе цягам 1802–1822 гадоў. Пагадзіцеся, недалёка, на фурманцы, цягам сутак, да Лучая, пры жаданні, можна і даехаць.

Тое, што ў Лучаі збіраюцца паставіць помнік Міхалу Клеафасу Агінскаму, аўтар гэтых радкоў чуў даўно. Аднак, нечакана, знайшоў фота макета помніка на адным з сайтаў. Так, намеры – сур'ёзныя!

Самы лепшы спосаб спраўдзіць інфармацыю – патэлефанаваць лучайскаму ксяндзу Мікалаю Ліпскаму.

*– Ужо і фота ёсць у інтэрнэце?– перапытвае ксёндз Мікалай. – Аператыўна! Хай бы так аператыўна дапамаглі і спонсараў шукаць!*

*Адкрыццё помніка прымеркавана да 13 верасня. Сёлета 250-я ўгодкі з дня нараджэння Міхала Клеафаса Агінскага! Зараз ідзе працэс узгаднення па ўстаноўцы помніка... Так што – лічыце гэта запрашэннем наведаць Лучай ва ўказаны дзень!*

Аўтар, нездарма, ва ўступнай частцы згадаў чэшскі гарадок Глыбокае над Влтавай. Быў жа і ў Лучаі да вайны цудоўны палац Мастоўскіх. На жаль, ён не перажыў вайну. Застаўся вялікі, але ў запусценні парк. У цэнтры Лучая – будынак старадаўняй карчмы.

Хацелася б, каб нашыя беларускія "алігархі" не толькі ўкладвалі грошы ва ўласныя катэджы, але і ў беларускую культуру. Той жа лучайскі палац можна аднавіць для выкарыстання пад дом адпачынку, дзіцячы летні лагер. Гэта значыць, што такое ўкладанне сродкаў, можа стаць акупным і прыносіць затым прыбытак.



Макет помніка М. Агінскаму ў Лучаі.



Палац у Лучаі. Не захаваўся, знішчаны ў апошнюю вайну. *Рэканструкцыя Ул. Скрабатуна.*

Хутка новы навучальны год!

# Лучай ізноў запрашае. Будзе цікава!

**Напярэдадні новага навучальнага года, 23 жніўня, а 14-й гадзіне, у касцёле св. Тадэвуша, адбудзецца Імша. Настаўнікі, вучні і студэнты атрымаюць дабраславенне на новы навучальны год.**

Акрамя таго, у гэты дзень, на прыкасцельным пляцы, адбудуцца мясцовыя Дажынкі, будзе аддадзена хвала Богу за добры ўраджай.

З канцэртнай праграмай завітае гурт "Рэха", у складзе якога папулярны спявак і музыка Андрусь Такіндаг. Абяцае прыехаць музыка-віртуоз Дзмітрый Корсак.

*кс. Мікалай Ліпскі*

# Доля беларускіх лекаў на айчынным рынку дасягнула 47,3%

**З пачатку года доля беларускіх лекаў на ўнутраным рынку павялічылася з 39% да 47,3%. Да канца 2015 года яна павінна скласці не менш за 50%.**

Як паведамляе БелТА са спасылкай на Міністэрства аховы здароўя, больш за 70% у аб'ёме вытворчасці беларускіх лекаў паранейшаму займаюць сацыяльна значныя недарагія сродкі з коштам да 1 даляра.



На дзяржаўным узроўні стаіць задача па давядзенні долі беларускіх лекаў да 50% у вартасным выражэнні да канца 2015 года. У ведамстве лічаць, што выканаць гэтае нялёгка, з прычыны нізкага кошту айчынных лекаў.

*БелТА.*

# «Чорных капацеляў» прыстрашылі Кодэксам аб культуры

**Пытанні аховы археалагічнай спадчыны Беларусі адлюструюць у Кодэксе аб культуры. Асобная глава Кодэкса аб культуры, які рыхтуецца, будзе прысвечана пытанням аховы археалагічнай спадчыны Беларусі, паведаміў на прэс-канферэнцыі 13 жніўня ў Мінску начальнік упраўлення па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Міністэрства культуры Беларусі Ігар Чарняўскі.**

Паводле слоў чыноўніка, праблематыку аховы археалагічнай спадчыны Мінкультуры прапаноўвала адлюстраваць у асобным законе яшчэ ў 2010 годзе, аднак гэта пытанне было вырашана разглядаць у межах кадыфікацыі ўсяго заканадаўства ў сферы культуры.

«У кодэксе будуць вызначаны не толькі помнікі археалогіі — аб'екты, якія атрымалі статус гісторыка-культурнай спадчыны, але і стаўленне да археалагічных аб'ектаў у цэлым, – сказаў Чарняўскі. – Іх (археалагічных аб'ектаў) у нас у Беларусі, паводле звестак Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук, больш за 10 тысяч, прычым толькі адных помнікаў археалогіі 2,3 тысячы.



Вельмі важнае пытанне, якое тычыцца аховы, працідзеяння незаконным раскопкам, выкарыстання розных сучасных прыбораў, абсталявання, напрыклад металадэтэктараў і гэтак далей».

Начальнік упраўлення па ахове гісторыка-культурнай спадчыны нагадаў, што цяпер вядзецца актыўнае абмеркаванне палажэнняў кодэкса і яго падрыхтоўка да разгляду на асенняй сесіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу. «Пастаянна праводзяцца сустрэчы з дэпутацкім корпусам, профільнай камісіяй, абмяркоўваюцца і ўдакладняюцца некаторыя нормы», — сказаў ён.

Паводле слоў Чарняўскага, Кодэкс аб культуры будзе ўтрымліваць усе дзейныя на сёння прававыя акты ў сферы культуры. Ён перакананы, што кадыфікацыя заканадаўства аб культуры вельмі важная і дасць станоўчы вынік для тых, хто цікавіцца спадчынай і непасрэдна ўдзельнічае ў пытаннях яе захавання.

*З. Шчарбакоў, БелаПАН*

# Жыхар Глыбоцкага раёна асуджаны да 11 гадоў зняволення за забойства жонкі

**Судовы працэс па справе аб забойстве завяршыўся 11 жніўня. Вырак суда не ўступіў у законную сілу і можа быць абскарджаны ў касацыйным парадку.**

Як паведаміла старэйшы памочнік пракурора Глыбоцкага раёна Таццяна Коцур, суд прызнаў жыхара Глыбоцкага раёна 1986 года



нараджэння вінаватым па ч.1 арт. 139 Крымінальнага кодэкса Беларусі (Забойства) і прызначыў пакаранне ў выглядзе 11 гадоў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў выпраўленчай калоніі ва ўмовах узмоцненага рэжыму.

Таксама асуджаны выплаціць сям'і загінулай у якасці матэрыяльнага кампенсавання маральнага ўрону ў агульнай суме 500 млн рублёў, дадала Таццяна Коцур.

Нагадаем, трагедыя адбылася ў Глыбокім у канцы красавіка бягучага года. На глебе рэўнасці паміж супругамі паўстаў канфлікт, падчас якога 29-гадовы мужчына стукнуў жонку нажом у шыю. Для 24-гадовай маладой жанчыны ўдар стаўся смяротным.

*Юлія Лахвіч.*

# Свята вёскі ў Квачах

**У нядзелю, 16 жніўня, у вёсцы Квачы Глыбоцкага раёна адзначылі свята вёскі.**

**■ Зміцер Лупач**

Распачалося свята каля крыжа, які ўсталяваны непадалёк ад шашы Полацк – Вільня. Тут кіраўніцтва Карабоўскага сельсавета і мясцовай гаспадаркі "Канстанцінаў Двор" разам з жыхарамі вёскі сустрэлі кіраўніка раёна Алега Морхата і Галіну Унуковіч, старшыню раённага Савета дэпутатаў.

Па даўняй традыцыі ўрачыстасць пачалася з малітвы каля крыжа, якую ўзначаліў мясцовы пробашч з Канстанцінава Антон Лагунёнак. Святар памаліўся не толькі за тых жыхароў, якія пражываюць зараз у Квачах, але і ўзгадаў у сваёй малітве і тых жыхароў вёскі, якія адышлі ў лепшы свет.

Пасля гэтага ўдзельнікі мерапрыемства пайшлі да асноўнага месца святкавання. Варта адзначыць, што на свята вёскі прыйшлі не толькі цяперашнія яе жыхары, але было і шмат гасцей, сярод якіх былі і ўраджэнцы гэтай вёскі.

З прывітальным словам да гасцей свята звярнуўся кіраўнік раёна Алег Морхат. Ён адзначыў, што падобныя мерапрыемствы сталі ў раёне ўжо добрай традыцыяй.

– Зараз час высокіх тэхналогій, інфармацыі, як бы ўсяго і хапае, але, відаць, людзям не хапае зносін, дружбы, любові, як гэта было ў ранейшыя часы, – адзначыў кіраўнік райна. Вось таму і вырашана было праводзіць у раёне такія мерапрыемствы.

Алег Морхат выказаў занепакоенасць дэмаграфічнай сітуацыяй у раёне і адзначыў, што выпраўленнем сітуацыі павінны быць занепакоены ўсе, не толькі ўлада. Ён прывёў такія лічбы: зараз у раёне пражывае крыху больш за 38 тысяч чалавек, на Глыбоччыне засталося 395 вёсак.

Упачаткувасьмідзясятых гадоў мінулага стагоддзя ў Глыбоцкім раёне жыло больш за 56 тысяч чалавек. Атрымоўваецца, што за тры дзесяцігоддзі насельніцтва раёна зменшылася на цэлы горад Глыбокае!



Сцэна з камедыі «Збянтэжаны Саўка» ў выкананні Язэпа і Насці Квач.

Потым кіраўнікі раёна разам з старшынёй Карабоўскага сельсавета Яўгенам Татуном і кіраўніком «Канстанцінавага Двара» ўручылі падарункі лепшым працаўнікам вёскі і ветэранам працы.

Падарункі атрымалі самая старэйшая жыхарка вёскі Вераніка Квач і самая малодшая Юльяна Федзічкіна. Апошняя парадвала прысутных сваёй песняй, якую яна праспявала па-беларуску і пра дзяўчынку-беларуску.

А далей гасцей чакаў канцэрт, які падрыхтавалі мясцовыя супрацоўнікі культуры.

Перад прысутнымі выступіў таксама ўраджэнец гэтай вёскі Язэп Квач, які распавёў пра гісторыю вёскі, падзяліўся сваімі ўспамінамі пра дзяцінства.



Спявае Юльяна Федзічкіна.

– Цяпер, на жаль, моладзь не такая, як былі мы. Так, яны прасунутыя, добра разбіраюцца ў кампутарных тэхналогіях, але яны не маюць той сувязі з прыродай, якую мелі мы. Так, мы былі свавольнікі, мы ведалі ў каго дзе растуць яблыкі-белянкі. А цяперашняя моладзь не ведае, дзе што расце на сваім падворку. Успамінаецца праца ў калгасе, калі мы, пяцішасцікласнікі працавалі на конях. Людзі перажылі тады цяжкія часы, можа таму і былі больш адкрытыя, – адзначыў спадар Язэп у сваім звароце да вяскоўцаў.

Ну, а пасля, разам з дачкой Насцяй яны паказалі сцэнку "Збянтэжаны Саўка", якая вельмі спадабалася гледачам. Было вельмі прыемна пачуць з іх вуснаў беларускую вясковую гаворку, якая яшчэ гучала ў нашых вёсках гадоў дваццаць – трыццаць таму, і якую, на жаль, зараз ужо не пачуеш.



За акардэонам Эдвард Рудак.

Выступіў на канцэрце і ўраджэнец Квачоў, зараз жыхар Глыбокага Эдвард Рудак, які прачытаў прысутным свае вершы, а таксама сыграў на акардэоне.

Закончылася свята беларускай полькай, госці паступова раз'ехаліся, а вяскоўцы працягнулі свята ў кампаніі суседзяў і знаёмых, бо такія святы праходзяць у сяльчан не так і часта.

Праўда, варта адзначыць, што не ўсе вяскоўцы былі задаволеныя, бо шмат хто яшчэ не атрымаў заробак за травень, а гэта не дадавала святочнага настрою. І тым не менш, калі судзіць па большасці, свята людзям спадабалася, бо гэта добрая нагода - сабраць разам у адным месцы ўсіх землякоў.



## Праграма абласнога свята «Яблычны фэст» у Алашках

**10.00 – 13.00 Раённы конкурс «Уладар сяла»**
*Алея ў садзе музея*
**11.00 – 15.00 Работа пляцовак:**
■ прыродазнаўчая «Яблычны фэст» (прымаюць удзел Гарадоцкі, Докшыцкі,Ліёзненскі, Пастаўскі, Полацкі, Шаркаўшчынскі раёны);
■ кулінарная (з удзелам клубаў нацыянальнай кухні Віцебскага, Докшыцкага, Ушацкага, Чашніцкага, Шаркаўшчынскага раёнаў);
■ выстава-конкурс «Яблычны скляпок»;
■ свята народнай песні «Спявай, душа, пакуль маладая»
Сад каля дома І. Сікоры.
■ выстава «Ручнікі Шаркаўшчынскага краю»;
■ выстава-продаж "Шаркаўшчынскія пірагі";
■ фотавыстава «Яблычны мікс»
*Сад мемарыяльнага музея садавода-селекцыянера І. П. Сікоры*
**11.20 – 11.50 Свята Алашкаўскага возера**
*Каля возера*
**12.00 – 13.00 Адкрыццё абласнога свята «Яблычны фэст»**
**«Светлы яблычны Спас – сікораўскай душы часцінка»**
*Сцэнічная пляцоўка*
**13.00 – 14.00 Літаратурна-музычнае свята «У гасцях у І. П. Сікоры», прысвечанае 130-годдзю з дня нараджэння садавода-селекцыянера І. П. Сікоры**
*Сцэнічная пляцоўка*
**14.00 – 14.15 Падвядзенне вынікаў раённага конкурсу «Уладар сяла»**
*Сцэнічная пляцоўка*
**14.00 – 14.20 Спектакль тэатра батлейка**
**15.00 – 15.20 «Пятрушка ў Бабы Ягі»**
*Сад музея*
**14.15 – 14.30 Уручэнне дыпломаў абласнога свята «Яблычны фэст»**
*Сцэнічная пляцоўка*
**14.30 – 15.00 Урачыстая рэгістрацыя шлюбу «Яблычнае вяселле»**
*Сцэнічная пляцоўка*
**15.00 – 17.00 Святочны канцэрт калектываў мастацкай самадзейнасці вобласці і раёна**
*Сцэнічная пляцоўка*
У праграме свята:
**11.00 – 16.00**
■ выстава-кірмаш «Дары прыроды»
■ выстава-продаж работ народных майстроў «Шаркаўшчынскі сувенір»
■ работа дзіцячых гульнёвых атракцыёнаў
■ работа гандлёвых радоў
■ спартыўна-гульнёвыя, забаўляльныя праграмы
■ катанне на ладдзе і лодцы
■ турыстычная выстава «Яблычны край».

# «П'янаму не месца за рулём!»

**Пад такой назвай Дзяржаўтаінспекцыя вобласці праводзіць з 14 па 23 жніўня прафілактычныя мерапрыемствы, накіраваныя на папярэджанне дарожна-транспартных здарэнняў з удзелам нецвярозых вадзіцеляў.**

■ **А.І. Завадскі,** *начальнік АДАІ, маёр міліцыі*

На вялікі жаль, на сённяшні дзень неатрымоўваецца выкараніць п'янства за рулём. Дадзеная праблема існуе і ў нашым раёне. Нягледзячы на прапаганду бяспечных паводзінаў удзельнікаў дарожнага руху, што праводзіцца работнікамі Дзяржаўтаінспекцыі, знаходзіцца яшчэ нямала грамадзян, якія не супраць у п'яным выглядзе пракаціцца за рулём, як аўтамабіля, так і матацыкла.

За сем месяцаў бягучага года супрацоўнікамі АДАІ затрымана 96 вадзіцеляў, 6 з іх паўторна на працягу года пасля накладання адміністрацыйнага спагнання за аналагічнае правапарушэнне.

Дзяржаўтаінспекцыяй вобласці за кіраванне транспартам у стане алкагольнага ап'янення затрымана 2582 вадзіцеляў, 138 з іх паўторна на працягу года. Калі ўдумацца ў гэтую лічбу, то становіцца не па сабе. Бо гэтыя людзі маглі прынесці нічым не сувымяральнае гора ў чыесці сем'і. З-за такіх нядбайных вадзіцеляў падвяргаюцца небяспецы практычна ўсе катэгорыі ўдзельнікаў дарожнага руху.

Сёння мы аналізуем сітуацыю, і не ўкладаецца ў галаве той факт, што некаторым грамадзянам няма ніякага страху перад вялікім штрафам, перад тым, што за кіраванне транспартам у стане алкагольнага ап'янення вадзіцель пазбаўляецца права кіравання транспартнымі сродкамі тэрмінам на 3 гады, ні тое, што з-за чаркі гарэлкі людзі губляюць нармальную працу.

Дзяржаўтаінспекцыя Глыбоцкага РАУС заклікае ўдзельнікаў дарожнага руху да выканання Правілаў дарожнага руху, да навядзення сумеснымі намаганнямі парадку на дарогах раёна і выкараненню п'янства за рулём. Падумайце аб сваіх блізкіх!

**Калі Вам стала вядома, што транспартным сродкам кіруе вадзіцель ў стане алкагольнага ап'янення – патэлефануеце на нумары: 1-02, 2-27-78, 597-21-74 (МТС – у начны час).**

# Паляванне на лася і аленя высакароднага



**З 20 жніўня па 30 верасня, паводле «Правіл вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання» адкрываецца сезон палявання на лася, аленя высакароднага, аленя плямістага, лань.**

У гэты перыяд дазволена здабываць дарослых самцоў, а таксама селекцыйных жывёл любога полу і ўзросту. Выкарыстоўваць можна нарэзную паляўнічую зброю з дульнай энергіяй кулі звыш 3000 джоўляў і гладкаствольную паляўнічую зброю з выкарыстаннем патронаў, забяспечаных кулямі. Паляваць можна ружэйным спосабам з засады, з падыходу, з прынаджваннем.

Пры незаконнай здабычы гэтых жывёл, памер кампенсацыі шкоды, згодна з новымі «Правіламі вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання» за адну асобіну складзе 300 базавых велічынь, а таксама ўзбуджаецца крымінальная справа.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету звяртае ўвагу паляўнічых на неабходнасць выканання мер засцярогі пры выкарыстанні агнястрэльнай паляўнічай зброяй.

**Паляўнічая стрэльба павінна быць разраджана пры:**

- пераадоленні на паляванні розных перашкод, пераходах па кладках праз ручаі, рэкі;
- падходзе да населенага пункта, месца прывалу, збору;
- сустрэчы са службовымі асобамі органаў паляўнічага кантролю, унутраных спраў, а таксама службовымі асобамі карыстальніка паляўнічых угоддзяў, якія ажыццяўляюць ахову паляўнічых жывёл у паляўнічых угоддзях, – гэта толькі малая частка тых мер бяспекі, якія павінны строга выконваць паляўнічыя.

Супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі спадзяюцца, што нашы паляўнічыя не будуць парушаць Правілы вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання ў Рэспубліцы Беларусь.

**Аб усіх правапарушэннях, якія ўчыняюцца ў прыродаахоўнай сферы, вы можаце паведаміць на тэлефон «гарачай лініі» 8-02156-2-86-70 або на мабільныя тэлефоны: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645 -66-78 (мтс).**

*Глыбоцкая міжраённая інспекцыя па ахове жывёльнага і расліннага свету*

# Увага! Блохі!



**Гэтыя маленькія, ледзь прыкметныя насякомыя дастаўляюць гаспадарам дома шмат непрыемнасцяў. Часцей за ўсё пакутуюць ад укусаў блох дзеці і людзі, схільныя да алергічных захворванняў (алергічныя праявы выклікаюць рэчывы, якія знаходзяцца ў сліне блыхі, якая выдзяляецца падчас укусу).**

■ **Д.А. Шыльчонак,** *фельшар-валеолаг*

Часцей за ўсё блохі паразітуюць на сабаках, катах і пацуках, могуць нападаць і на чалавека.

Памер блыхі 1-5 мм, колер вар'іруе ад саламянажоўтага да цёмнакарычневага, цела моцна сціснута з бакоў, задняя пара ног развіта асабліва моцна і служыць для прыгання, ротавыя органы блыхі прыстасаваныя для праколвання скуры і смактання крыві.

Блохі – часовыя паразіты. Самкі адкладаюць яйкі, раскідваючы іх свабодна, радзей на поўсць «гаспадара», адкуль яны могуць скочваць на падсцілку, зямлю, падлогу; выкарыстоўваюць кучы смецця і пылу (напрыклад, у кутах памяшканняў, расколінах падлог і сцен). Тэрміны развіцця насякомых залежаць ад мікраклімату. Аптымальныя ўмовы развіцця – вільготнасць 70-100%, тэмпература 18-27°. Праз 1-2 тыдні з яек выходзяць лічынкі, якія маюць чэрвепадобнае цела. На працягу тыдня яны акукліваюцца ў кокане, а яшчэ праз 2 тыдні з кукалкі выходзіць дарослая асобіна, якая вядзе паразітычны лад жыцця. Дарослыя блохі сілкуюцца выключна крывёй. Жывуць блохі каля года і здольныя да працяглага галадання.

Насякомых-паразітаў лёгка выявіць на целе сабак і катоў, аднак неабходна памятаць, што толькі 10% блох жывуць на жывёлах, астатнія – у іх асяроддзі. Гэта сведчыць аб тым, што блыха з лёгкасцю можа скокнуць на чалавека і даставіць шэраг непрыемнасцяў у выглядзе ўкусаў, якія ў наступным могуць прывесці да алергічных праяў, наймацнейшаму свербу і дэрматыту. Таксама ў гэтых насякомых доўгі час застаюцца жыццяздольнымі ўзбуджальнікі розных інфекцыйных захворванняў, якія пры крывасмактанні перадаюцца чалавеку.

Усё вышэй сказанае вядзе да таго, што блыха без цяжкасці можа патрапіць на любога хатняга гадаванца, яйкі і лічынкі можна прынесці ў свой дом з пяском на абутку, а каб пазбавіцца ад крывасмокаў неабходна будзе прыкласці пэўныя намаганні.

У мэтах прафілактыкі вялікае значэнне мае чысціня памяшкання, рэгулярнае выкарыстанне пыласоса і вільготная ўборка.

Барацьбу з блохамі праводзяць у некалькіх напрамках у залежнасці ад месцаў іх пражывання.

Калі маюцца хатнія жывёлы, неабходна правяраць наяўнасць у іх блох, старанна сачыць за месцамі іх утрымання і адпачынку – будкамі, кошыкамі, падсцілкамі і інш. Усе гэтыя месцы па меры патрэбы апрацоўваюцца сродкамі, якія знішчаюць насякомых.

Для знішчэння блох у памяшканнях неабходна апрацаваць паверхню падлогі, шчыліны за ліштвой, сцены на вышыні да аднаго метра, выкарыстоўваючы спецыяльныя прэпараты (інсектыцыды). Дываны, паласы таксама неабходна апрацаваць дадзенымі сродкамі і звярнуць. Мяккую мэблю рэкамендуецца прапыласосіць. Любая неапрацаваная паверхня дае гэтым маленькім насякомым ацалець.

Пры выкарыстанні любога сродку ад блох неабходна выконваць максімальныя меры засцярогі: гумовыя пальчаткі, маска на твар, акуляры.

Пасля апрацоўкі неабходна зачыніць памяшканне на час, пазначаны ў інструкцыі па ўжыванні прэпарата. Пасля заканчэння дадзенага часу трэба праветрыць памяшканне. На працягу тыдня ўборку ў апрацаваным памяшканні рабіць не рэкамендуецца. Гэта неабходна для таго, каб загінулі не толькі блохі, але і іх лічынкі. Паўторная апрацоўка памяшканняў праводзіцца па меры неабходнасці.

Вялікую ўвагу варта надаваць барацьбе з грызунамі, так як на іх таксама паразітуюць блохі, і перш за ўсё ў восеньскі перыяд, калі мышы і пацукі імкнуцца пракрасціся ў пабудовы і падвалы.

Для выгнання блох з жылых памяшканняў можна скарыстацца і народнымі сродкамі, якія з'яўляюцца бяспечнымі для жыхароў.



Так, напрыклад, блохі не пераносяць паху такіх траў, як піжма і палын. Іх можна раскласці па кватэры ў пучках, а можна выкарыстоўваць настой гэтых траў пры вільготнай уборцы. Праз некаторы час усе блохі самі пакінуць вашу кватэру.

Будзем рады, калі гэта інфармацыя будзе вам карысная. **Калі вы самастойна не зможаце справіцца з надакучлівымі насякомымі, то заўсёды можаце звярнуцца ў аддзел эпідэміялогіі дзяржаўнай установы «Глыбоцкі раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі» для набыцця сродкаў супраць блох і, пры неабходнасці, замовіць апрацоўку сіламі спецыялістаў цэнтра. Тэлефон для даведак: 2-20-21.**

# Тэлетыдзень «Вольнага Глыбокага»



## ПАНЯДЗЕЛАК, 24 жніўня




**06.00** Доброе утро, Беларусь!
**07.00** Новости.
**07.05** Новости экономики.
**07.10** Зона Х.
**07.20** Доброе утро, Беларусь!
**08.00** Новости.
**08.05** Новости экономики.
**08.10** Зона Х.
**08.15** Доброе утро, Беларусь!
**09.00** Новости.
**09.10** Главный эфир.
**10.25 «Любопытная Варвара»**
**11.00** 90 секунд.
**11.40 «Путь к сердцу мужчины»**
**12.00** Новости.
**13.00** 90 секунд.
**13.40 «Мое любимое чудовище»**. 1-я с.
**15.00** Новости.
**15.15** Новости региона.
**15.55 «Мое любимое чудовище»**. 2-я с.
**16.00** 90 секунд.
**17.35** Белорусское времечко.
**18.40** Новости региона.
**19.00** Новости.
**19.20** Арена.
**19.40** Зона Х.
**20.00 «Любопытная Варвара»**
**21.00** Панорама.
**21.40 «След»**
**23.10** Зона Х.
**23.30** Новости.
**23.50** День спорта.
**00.00 «Анютино счастье»** 1-я и 2-я с.




**06.00**, **08.30** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.00** Наши новости.
**09.05** Контуры.
**10.00** «Жить здорово!».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** «Фазенда».
**11.55** «Модный приговор».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Мужское/Женское».
**14.10** Фильм **«Любовь и голуби»**.
**16.00** Наши новости.
**16.15** Новости спорта.
**16.20** «Учиться жить».
**16.50** «Давай поженимся!».
**18.00** Наши новости (с субтитрами).
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет». «Космом Чюрлёниса. Белорусские мотивы».
**18.55** «Пусть говорят».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** «Дело принципа».
**22.15** Концерт группы «Любэ».
**00.40** Ночные новости.




**07.00** Телеутро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** Фантастико-приключенческий сериал **«Ковчег»** (Испания).
**10.35** Телебарометр.
**11.05** Анимация для всей семьи. **«Смурфики 2»** (США).
**12.45** Комедийная мелодрама **«Море. Горы. Керамзит»** Россия.
**16.15** Фантастико-приключенческий сериал **«Ковчег»** (Испания).
**17.55** Остросюжетный детектив **«Сыщик без лицензии»** (Россия). 1-я серия.
**19.10** Мелодраматический сериал **«Не родись красивой»** (Россия).
**21.00** Мозговой штурм.
**21.35** Телебарометр.
**21.40** КЕНО.
**21.45** «Экстрасенсы-детективы». (Украина).
**22.40** Репортер.
**23.25** Детективный сериал **«Кости»** (США).
**00.15** Комедийный сериал **«Как я встретил вашу маму»** (США).
**01.05** Остросюжетный детектив **«Сыщик без лицензии»** 1-я серия.




**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. Студия хорошего настроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ спорт».
**07.45** «Утро. Студия хорошего настроения».
**08.30** «Неделя». Информационно-аналитическая программа.
**09.25** «Документальный проект»: «Неприменимые способности».
**10.20** «Дальние родственники».
**10.30** «24 часа».
**10.40 «Солдаты 9»**. Сериал.
**11.30** «Семейные драмы».
**12.30** «Не ври мне!».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Пища богов».
**14.45** «Дорогая передача».
**15.10** «Чистая работа».
**15.55** «Другая страна». «Узбекистан: место под солнцем».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Большой город».
**17.25** «Минщина».
**17.35** «Званый ужин».
**18.35** «Документальный проект»: «Инопланетяне тоже люди».
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ спорт».
**20.15** «Военная тайна с Игорем Прокопенко».
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ спорт».
**23.00** «Кино»: **«В поисках Эрика»**. Великобритания - Франция - Италия - Бельгия - Испания, 2009г.
**01.00** «Документальный проект»: «Земля. В поисках создателя».




**07.00 Каханне ля поплаву**, тэлесерыял
**07.50 Mad Men. Утрапёныя III**, серыял
**08.35** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча
**09.00** Фотааматар, д/ф
**10.00** Назад у будучыню
**10.15** Гісторыя пад знакам Пагоні
**10.25** Загадкі беларускай гісторыі.
**10.40** Мова нанова. Кватэра
**10.55** Над Нёманам
**11.15 Генрых V**, м/ф
**16.00 Mad Men. Утрапёныя III**, серыял
**16.45** Злодзеі ў законе. Жыццё атрымалася, д/ф
**18.20** Размовы эксперта
**18.35** Побач з намі
**18.55** Назад у будучыню
**19.10** Гісторыя пад знакам Пагоні
**19.25** Невядомая Беларусь. Шчаслівыя людзі, д/ф
**20.00** Студыя «Белсат»
**21.00** Аб'ектыў
**21.25** 54 %
**21.45** Пацалунак Пуціна, д/ф
**22.50 Генрых V**, м/ф
**01.05** Студыя «Белсат»

